# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№ 9 (196)
верасень 2018

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"

## У НУМАРЫ:

### Кампанія "Будзьма беларусамі!" – 10 гадоў разам!

10 гадоў таму 1 кастрычніка стартавала агульнабеларуская грамадская культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!", якая абвясціла мэтай паглыбленне нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў.

Працяг на старонцы 2.

### Беатыфікацыя Францыска Скарыны: годная справа дзеля кансалідацыя нацыі

Хіба ён не варты таго, каб быць у ліку святых? Варты! І за сваю дзейнасць, і за тое, чым і як жыў.

Працяг на старонцы 7.

### "Беларусы ў Штатах апошнім часам гуртуюцца ў сацсетках"

Гутарка з Вячаславам Бортнікам пра тое, чым займаюцца самыя буйныя беларускія арганізацыі ў ЗША, як працуе Amnesty International, ці думае Дзярждэп пра Беларусь і што такое беларускі "happy hour".

Працяг на старонцы 6.

### 10 фактаў пра кампанію "Будзьма беларусамі!"

Працяг на старонцы 3.



Прадстаўнікі Міністэрства замежных спраў і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь на Сёмым з'ездзе беларусаў свету. 15 ліпеня 2017 г.

# "БАЦЬКАЎШЧЫНА" ПРАПАНОЎВАЕ ЎДАСКАНАЛІЦЬ ЗАКАНАДАЎСТВА АБ БЕЛАРУСАХ ЗАМЕЖЖА

У 2014 годзе быў прыняты Закон Рэспублікі Беларусь "Аб беларусах замежжа".

"Бацькаўшчына" пры падтрымцы шматлікіх беларускіх суполак у свеце актыўна прасоўвала яго прыняцце. У 2017 г. на Сёмым з'ездзе беларусаў свету прадстаўнікі беларускай дыяспары прапаноўвалі ўнесці дапаўненні і змены ў закон, напоўніць яго больш практычным зместам. "Бацькаўшчына" акумулявала прапановы прадстаўнікоў беларускіх суполак замежжа, а таксама зрабіла аналіз дзеючага заканадаўства на прадмет яго ўдасканалення з улікам нядаўна прынятага "Закона аб беларусах замежжа". Гэтыя заўвагі і прапановы на просьбу Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў Рэспублікі Беларусь былі накіраваныя на іх адрас.

Аднак мы лічым важным, каб абмеркаванне ўдасканалення беларускага заканадаўства, якое тычыцца істотнай часткі нацыі, не заставалася ў закрытых колах. Таму публікуем на сайце zbsb.org нашы прапановы, якія датычацца не толькі самога Закона, але і ў сувязі з яго прыняццем – шэрагу іншых прававых дакументаў. Мы перакананыя, што супрацоўніцтва беларускай дзяржавы з беларускім замежжам павінна палягаць не толькі ў рэчышчы задавальнення культурніцкіх патрэб беларускай дыяспары, але і даваць магчымасць развівацца беларускім асяродкам у розных кірунках, і прыцягваць патэнцыял беларусаў замежжа ў эканоміку, навуку, культуру і сацыяльную сферу Беларусі, заахвочваць нашых суайчыннікаў быць не толькі іміджавымі цэнтрамі Беларусі ў замежжы, але і мастамі паміж краінамі, праз якія Беларусь можа атрымаць веды, інавацыйныя тэхналогіі і інвестыцыі, як эканамічныя, так і інтэлектуальныя.

Калі ласка, уважліва азнаёмцеся з тэкстам закона і з нашымі заўвагамі да яго (https://zbsb.org/news/zbsb/y).

Дасылайце свае прапановы і заўвагі па ўдасканаленні "Закона аб беларусах замежжа" нам на адрас: zbsb.minsk@gmail.com.

юбілей

# КАМПАНІЯ "БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!" – 10 ГАДОЎ РАЗАМ!

10 гадоў таму 1 кастрычніка стартавала агульнабеларуская грамадская культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!", якая абвясціла мэтай паглыбленне нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў.



## Як усё пачыналася

На той момант падобных ініцыятыў у Беларусі папросту не было. Безумоўна, у краіне дзесяцігоддзямі працавалі шматлікія недзяржаўныя арганізацыі, якія пашыралі беларушчыну, займаліся папулярызацыяй беларускай мовы і культуры, рабілі ўсё магчымае ў даволі складанай грамадска-палітычнай сітуацыі, але кампаніі, якая замахнулася б на агульнанацыянальны ўзровень і шматпрофільную дзейнасць, не было. І адной з задач якую ставіла перад сабой "Будзьма", было аб'яднанне не толькі ўжо наяўных ініцыятыў, але і прыцягненне новых прыхільнікаў. Было вельмі важна, каб жыхары Беларусі перасталі ўспрымаць высілкі руплівцаў на ніве беларушчыны як часовыя, лакальныя дзеянні апантаных і асэнсавалі неабходнасць развіцця краіны менавіта на глебе нацыянальна-культурных каштоўнасцяў.

Ініцыятарам стварэння кампаніі стала Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". Сярод тых, хто першым падтрымаў стварэнне такой ініцыятывы, былі Саюз беларускіх пісьменнікаў, Таварыства беларускай мовы, Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, суполка "Пагоня" Саюза беларускіх мастакоў, грамадскае аб'яднанне "Гісторыка" ды іншыя. Усіх, вядома, не пералічыш. "Бацькаўшчына" ўзяла на сябе ролю каардынатара на чале з Аленай Макоўскай і Нінай Шыдлоўскай.

Такіх ініцыятыў не існавала не толькі ў Беларусі, але і ў суседніх краінах. Таму стваральнікам кампаніі давялося натхняцца... уласным досведам. А пастаўленая мэта засталася актуальнай і сёння: яднанне беларусаў на глебе нацыянальных каштоўнасцяў. Вось што казала тады на першай "будзьмаўскай" прэс-канферэнцыі Алена Макоўская, каардынатар кампаніі: "Працэс кансалідацыі грамадства з тым ці іншым поспехам прайшоў на тэрыторыі ўсяго былога Савецкага Саюза, але ў Беларусі да гэтага часу ніхто не здолеў аб'яднаць беларусаў, ці прапанаваць глебу для гэтага. На нашу думку, павага да сябе, свайго народа, мовы, культуры, любоў да гісторыі і могуць стаць такім падмуркам".

Не дзіва, што кампанію ад пачатку акрэслілі ініцыятывай, у якой "не будзе канца". Бо, згадзіцеся, працэс кансалідацыі беларускага грамадства – з'ява вельмі складаная і доўгатэрміновая. Каардынатар кампаніі Ніна Шыдлоўская адзначыла гэта ў сваім выступе: "Які б ні быў зменлівы свет, ва ўсе часы найбольш цэніцца самабытнасць, пачуццё ўласнай годнасці і яснае бачанне перспектывы. На працягу шматлікіх стагоддзяў нашае грамадства дзялілі па палітычных прыкметах, матэрыяльным стане і інш. Відавочна, што былі спробы аб'яднаць нашае грамадства, але ў большасці выпадкаў яны рабіліся на палітычнай глебе, можа, таму і цярпелі паразу? Мы ўсё больш пераконваемся ў тым, што кансалідаваць насельніцтва краіны могуць не часовыя паняцці і інтарэсы, а тое, што можна з усёй адказнасцю назваць словам "вечнае".

## "Будзьма" як пункт збору

Шукаючы шляхі да яднання, кампанія ўзялася за беларускую культуру ў самым шырокім разуменні гэтага слова. Ад першых дзён існавання пад эгідай ініцыятывы пачалі праводзіцца шматлікія культурніцкія імпрэзы з удзелам вядомых беларускіх літаратараў, музыкаў, мастакоў. За гэтыя гады такія "культурніцкія дэсанты" наведалі сотні школ, садкоў, летнікаў, публічных культурных асяродкаў ды іншых устаноў культуры і адукацыі па ўсёй краіне. Дзякуючы гэтаму людзі ў рэгіёнах адкрывалі для сябе сучасных беларускіх творцаў, чые імёны не згадваліся ні ў падручніках, ні ў дзяржаўнай прэсе.

Як і раней, галоўным чынам імпрэзы адбываюцца ў рэгіёнах, дзе дагэтуль культурніцкае жыццё заўважна слабейшае за сталічнае. Пры падтрымцы кампаніі ў Беларусі адбыўся цэлы шэраг фестываляў у розных гарадах: напрыклад, "У госці да Лепельскага Цмока" ў Лепелі, "Свята ветру" ў Віцебску, "DranikFest" у Магілёве ды іншыя. Акрамя гэтага кампаніяй ад пачатку ладзіліся шматлікія музычныя імпрэзы, Шоу Беларушчыны, экскурсіі, дабрачынныя мерапрыемствы і многае іншае – каб заахвоціць людзей цікавіцца гісторыяй, культурай нашай краіны, у якой і ёсць, мы верым, наш падмурак для яднання і дэмакратычнага развіцця.

Кампанія шукала і знаходзіла фарматы ўзаемадзеяння з рознымі групамі – бізнесам, дзяржаўнымі ўстановамі культуры і адукацыі, і ўсе мерапрыемствы праходзілі пад агульнымі слоганамі: "Будзьма беларусамі! – гэта тое, што нас аб'ядноўвае і робіць нас унікальнымі", "Культура паляпшае жыццё!", "Разам да справы!" Дарэчы, некаторыя з іх былі нават на той момант падхопленыя дзяржаўнымі ўстановамі.

Гучыць фантастычна, але "Будзьма" была адной з першых, хто пачаў пераасэнсоўваць, асучасніваць нацыянальныя сімвалы, распаўсюджваючы адзенне і аксесуары з іх выявамі. Гэта цяпер мы маем цэлы шэраг самых розных брэндаў, а 10 гадоў такой разнастайнасці не было – былі ў асноўным выявы дзяржаўнага герба і "Пагоні". "Будзьма" ж прапанавала альтэрнатыву для тых, хто хацеў падкрэсліць сваю беларускасць, але без настолькі яўнай палітычнай дэманстрацыі. Нашыя адметныя торбы, цішоткі, нататнікі, закладкі за гэты час сталі не толькі пазнавальнымі, але і папулярнымі як у Беларусі, так і за яе межамі і прадэманстравалі, што ўвасобіць беларускасць можна так, каб гэта было цікава і прывабна для сучаснага чалавека.

Кампанія пастаралася вярнуць у шырокі ўжытак традыцыю вечаў – абмяркоўваць шырокім сходам актуальныя пытанні. Так, ужо прыжыўся ў Беларусі фармат публічных дыскусій і Кірмашоў праектаў. Менавіта яны далі магчымасць у рэгіёнах "падняць" людзей на лакальную дзейнасць, прывучыць самім ініцыяваць і рэалізоўваць свае задумы на карысць іншых.

А сама "Будзьма" за гэтыя гады ператварылася ў сапраўдны пункт збору актыўных, творчых і крэатыўных людзей, неабыякавых да беларушчыны. Гэта вельмі важны ўнёсак кампаніі не толькі ў прамоцыю актуальнай беларускай культуры, але і ў развіццё грамадзянскай супольнасці.

## Чым запомніліся

"Будзьма" стварыла цэлы шэраг праектаў, праз якія мы вучылі і вучыліся гісторыі; адкрывалі новыя імёны ў спорце і культуры; даводзілі, што беларуская мова – якасны сродак камунікацыі, а ўсё беларускае можа і мусіць быць модным, сучасным і актуальным. Гэтыя праекты (мы гэта бачым) натхнялі іншых на далейшы крэатыў і стварэнне новых яскравых падзей. Найбольш вядомыя з такіх праектаў-натхняльнікаў варта згадаць:

- Анімацыйны фільм "Будзьма беларусамі!",
- Камунікацыйная праграма "У пошуках Цмока",
- Спартовы праект "Байцоўскі ген",
- Выдавецкая серыя (паштоўкі і календары) "Не маўчы па-беларуску!",
- Музычны праект "Тузін.Перазагрузка",
- Серыі інтэрв'ю "Будзьма беларусКамі!",
- Серыя ролікаў "Культура паляпшае жыццё",
- Новы мультымедыйны праект "Край|by",
- Фестываль беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі "Аднак!",
- Паэтычны відэапраект "Чорна-белыя вершы",
- Рэгіянальная праграма "Разам да справы!"

Але кампанія ніколі не стала б такой папулярнай, калі б не тыя людзі, арганізацыі і ініцыятывы, што спрычыніліся да яе сваім талентам, сваімі ведамі і майстэрствам. Мы ўдзячныя ўсім, хто пачынаў разам з намі, хто дапамагаў і актыўна ўключаўся ў справу, і ўсім, хто разам з намі цяпер!

З нагоды юбілею на сайце budzma.by публікуецца серыя матэрыялаў-нагадак пра самыя адметныя, важныя праекты, іх аўтараў ды стваральнікаў.

Будзьма разам!

юбілей

# ШТО АТРЫМАЛАСЯ, А ШТО НЕ. 10 ФАКТАЎ ПРА КАМПАНІЮ "БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!"

З дапамогай каардынатарак кампаніі Алены Макоўскай і Ніны Шыдлоўскай, а таксама камунікацыйнага кансультанта Андрэя Эзерына "Радыё Свабода" сабрала 10 фактаў пра кампанію.

### 1. Да старту "Будзьма беларусамі" падштурхнула 90-годдзе абвяшчэння БНР

Алена Макоўская ўспамінае, як у 2007 годзе ў Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" з'явіўся пілотны праект – набліжалася 90-годдзе БНР: "І хацелася вынесці гэтае святкаванне за межы палітычнага фармату, каб яно пайшло шырэй, каб людзі, незалежна ад розных палітычных поглядаў, разумелі значнасць і вартасць гэтых падзей. І цягам некалькіх месяцаў мы ладзілі літаратурныя, музычныя, культурніцкія імпрэзы ў Менску і рэгіёнах, звязаныя менавіта з юбілеем БНР. Напачатку баяліся, што давядзецца з Менску арганізоўваць імпрэзы ў рэгіёнах. А інтарэс паўсюль быў настолькі вялікі! Для нас было адкрыццё, наколькі была высокая цікавасць, запатрабаванасць, інтарэс, і мы зразумелі, што ідзём правільным шляхам".

А потым паўстала пытанне: ці штогод шукаць нейкія знакавыя падзеі, ці ўсё ж такі арганізаваць нейкую кампанію, якая б дапамагла беларусам пазнаёміцца з беларускай культурай, з найлепшымі яе дасягненнямі.

Ніна Шыдлоўская дадае, што на ніве беларускай культуры працавала шмат арганізацый, але гэтая праца выглядала для незаангажаваных людзей больш як кропкавая, разрозненая, а ў пэўны перыяд грамадска-палітычнага жыцця яшчэ і як вельмі палітызаваная: "І некаторыя асцерагаліся, пабойваліся да гэтага далучацца. І таму на гэтым пазітыве – 90-годдзе БНР – менавіта праз культурна-асветніцкую акцыю мы імкнуліся прадэманстраваць, што беларуская культура – гэта якраз той падмурак (як у гістарычнай рэтраспектыве, так і ў сучасны перыяд), які дае апірышча для незалежнасці сучаснай Беларусі. І тады, убачыўшы пазітыў, водгукі людзей, зацікаўленасць, задумаліся, якім чынам працягнуць. І чарговым разам, калі мы ехалі ў выправу, нас асяніла: трэба пачынаць новую агульнанацыянальную кампанію ўнутры Беларусі".

### 2. Чаму дзень народзінаў "Будзьма" 1 кастрычніка

Каардынатары кажуць, што спачатку яны планавалі запусціць кампанію ўвесну 2008 года, адразу ж пасля святкавання 90-годдзя БНР: "Але ў краіне былі іншыя палітычныя кампаніі, парламенцкія выбары, і мы вырашылі не змешвацца з імі, а ісці асобна. І, як толькі скончыліся ўсе выбары, тады мы і стартанулі з кампаніяй. 1 кастрычніка 2008 года адбылася прэс-канферэнцыя, на якой мы заявілі, што "Будзьма беларусамі!" пачынаецца; пра яе мэты і задачы. Напачатку было складана, даводзілася эксперыментаваць, займацца вынаходніцтвам. Пачыналі з культурных мерапрыемстваў, імпрэзаў, канцэртаў – далучаліся іншыя людзі, ініцыятывы. Але задача – выйсці на іншы ўзровень, прыцягваць людзей, прасоўваць трэнд беларускага як сучаснага і перспектыўнага. Першыя 2 гады збіралі аднадумцаў, партнёраў – дзясятак арганізацый пагадзіліся з намі працаваць пад такім моцным лозунгам".

### 3. Хто прыдумаў назву "Будзьма беларусамі!"?

Алена Макоўская кажа, што гэта была калектыўная, калегіяльная праца. Пачынала прыкладна 10 арганізацый і ініцыятыў, збіраліся разам і прыдумлялі. Было шмат спрэчак, не адзін моцны мазгавы штурм: "Былі аналагі і з украінскай "будзьма". Нам хацелася штосьці станоўчае, гістарычна беларускае і самасцвярджальнае. І нам здаецца, што мы знайшлі правільнае рашэнне. Так што гэта калектыўны выбар, канкрэтнага аўтарства няма".

А потым асобы кампаніі пачалі шукаць прыметнікі: "Будзьма адметнымі", "Будзьма крэатыўнымі", "Будзьма творчымі" "Будзьма непаўторнымі", "Будзьма ўпартымі!", "Будзьма неабыякавымі", "Будзьма захопленымі", "Будзьма адказнымі", "Будзьма натхняльнымі", "Будзьма сумленнымі", "Будзьма зачараванымі", "Будзьма прыгожымі", "Будзьма закаханымі" і яшчэ некалькі дзясяткаў прыметнікаў...

### 4. "Будзьма" ўпершыню выйшла з адметнай візуальнай прадукцыяй

Людзі, якія хацелі паказаць, што яны з Беларусі, станавіліся, так бы мовіць на два розныя полюсы: альбо апраналі штосьці з "Пагоняй" і бела-чырвона-белае, альбо колеры дзяржаўнага сцяга.

"А пасярод не было нічога. І для людзей, якія не хацелі дэманстраваць свае палітычныя погляды, мы зрабілі прапанову, што можа быць пасярэдзіне – беларускім, нацыянальным. Калі распрацоўвалі лагатып кампаніі, было вельмі важна, каб ён пераклікаўся з гісторыяй, з вышыванымі арнаментамі. І гэтая форма пікселяў, квадрацікаў – вельмі гнуткая і сучасная, звязвае з камп'ютарнай эпохай, вельмі зручна кампанаваць, будаваць розныя вобразы", – кажа Алена Макоўская.

Ніна Шыдлоўская прыгадала гісторыю, як яна ездзіла ў Берасце на прэзентацыю кампаніі, сустракалася з чынавенствам, тлумачыла, з чым "Будзьма" заходзіць у іх прастору: "Прэзентацыя была з прыгожымі фотаздымкамі, дзе з намі сусветна вядомая фірма Husqvarna фэст "Аднак!" адкрывае, распавяла ўсё ў пазітыве. Пытанне было практычна адно: "А чаму ў вас сімволіка ў бела-чырвоных колерах?" Я адматала некалькі фотаздымкаў назад, запыталася: "Вы ў лесе часта бываеце? Там шлагбаумы перасцерагальныя таксама бела-чырвоныя. Гэта таксама натуральна для нашай прасторы".

### 5. Талент збіраць вакол сябе цікавых людзей

Камунікацыйны кансультант Андрэй Эзерын адзначае, што падмурак, на якім стаіць "Будзьма", – гэта асаблівы талент збіраць вакол сябе цікавых людзей: "З самага пачатку кампанія працавала з найлепшымі. Мне пашанцавала, маю гонар, што і мяне сюды далучылі. Каманда сапраўды прабіла вельмі цікавыя рэчы – упершыню ў Беларусі. Мне здаецца, што менавіта "Будзьма" выйшла з гета і стала шчыльна, сур'ёзна, стратэгічна працаваць, напрыклад, з бізнесам. Адзін з самых моцных прыкладаў – гэта фестываль "Аднак!" – вельмі складаны праект, на такіх праектах пасівець можна! "Аднак!" не адбыўся б без бізнесоўца Сяргея Скарахода, якога я прыцягнуў у каманду. А мяне далучыў да "Будзьма" Севярын Квяткоўскі".



Алена Макоўская



Ніна Шыдлоўская

Працяг на старонцы 4.

юбілей

# ШТО АТРЫМАЛАСЯ, А ШТО НЕ. 10 ФАКТАЎ ПРА КАМПАНІЮ "БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!"

Працяг са старонкі 3.

"Колькі цікавых журналістаў, фатографаў далучыліся да кампаніі, бо калі стваралі які-небудзь прадукт, вельмі важная была якасць. Калі беларускае, беларускамоўнае – яно павінна быць супер! І адбывалася сінергія: мы вучыліся ў іх, яны – у нас", – дадае Алена Макоўская.

Андрэй Эзерын пералічыў толькі некаторыя праекты і асобы: музыкаў Лявона Вольскага, Змітра Вайцюшкевіча, Аляксандра Памідорава, Рамана Арлова, літаратараў Уладзіміра Арлова, Віктара Марціновіча, мастацтвазнаўцу Сяргея Харэўскага, з дапамогай якога "Будзьма" выдала першую кніжку – пра мінскі квартал Асмалоўку.


Андрэй Эзэрын

### 6. Фестываль беларускамоўнай рэкламы "Аднак!"

У 2010 годзе "Будзьма" зладзіла Першы фестываль беларускамоўнай рэкламы і камунікацый, які стаў традыцыйным – сёлета адбудзецца ўжо восьмы раз.

Каардынатары прыгадалі першую прэс-канферэнцыю перад фестывалем у страўні "Камяніца", дзе сядзелі вельмі напружаныя, насцярожаныя бізнесоўцы, рэкламісты, якія казалі, што "беларуская мова – гэта каб вылучыцца, яна выкарыстоўваецца як інструмент, рэклама па-беларуску не мае перспектывы". А якраз напярэдадні правялі сацыялагічнае даследаванне, і 51% беларусаў адказалі, што гатовы атрымліваць інфармацыю па-беларуску.

"Можа быць, яны не гатовыя актыўна размаўляць, але пасіўна ўспрымаць беларускую мову гатовыя. Я кажу: давайце працаваць на іх. Вы ж рэкламісты – прагрэсіўныя, крэатыўныя, вы ж павінны гэтую плынь рухаць!" – кажа Алена Макоўская.

Далучыліся бізнесоўцы – кіраўнік рэсурсу marketing.by Сяргей Скараход разам з "Будзьма беларусамі!" стаў прасоўваць і раскручваць фестываль, ён пранікся, шчыра паставіўся, яму было цікава – зусім не меркантыльныя мэты былі.

"А праз фестывалі Сяргей Скараход дапамог дагрукацца да бізнес-асяродку з нашай беларушчынай. Калі мы пачыналі, у большасці грамадскіх арганізацый не было звычкі працаваць так, як працуе бізнес-структура – з дакладнымі вытрыманымі паслядоўнымі крокамі, камунікацыяй падчас мерапрыемства, посткамунікацыяй, арганізацыяй працы ў офісе і гэтак далей. Дзякуй Андрэю, мы і ў яго навучаліся многім падыходам і інструментам з бізнесу. І мы ўжо ад нашых партнёраў з грамадскіх арганізацый часам патрабавалі больш арганізаванай паслядоўнай працы. Бо бізнес-механізмы задуманы для дасягнення эфекту, а не толькі для працэсу. Мы і самі вучыліся карыстацца, і іншых вучылі", – дадае Ніна Шыдлоўская.

### 7. "Будзьма" запусціла Цмока

Найлепшая баскетбольная каманда Беларусі перайменаваная ў "Цмокаў", улады Лепелю абмяркоўваюць цмока ў якасці сімвала раёна і пяты год ладзяць фэст "У госці да лепельскага цмока", а на ўзроўні Мінгарвыканкама абмяркоўваецца праект Траецкага моста з гэтымі міфічнымі істотамі.

"Самыя паспяховыя праекты – сістэмныя. Вобраз, які запусціла "Будзьма" з кампаніяй "У пошуках цмока", пайшоў у народ. Гэта была мэта кампаніі – каб гэтай нацыянальнай глебай людзі карысталіся", – кажа Ніна Шыдлоўская.

Хоць напачатку ўсе адчувалі, што ідэя з цмокам была авантурнай, але яна захапіла ўсіх правакацыйнасцю, навізной, а яшчэ тым, што цмок – герой шматлікіх беларускіх міфаў, легендаў і паданняў.

"Баскетбольны клуб "Мінск-2006" сам выйшаў на нас. Падчас прэзентацыі праекта "У пошуках цмока" да нас прыйшоў трэнер Аляксандр Куль. Ён настолькі прасякнуўся і захапіўся самой ідэяй цмока, які адлюстроўвае пласт гісторыі Беларусі! А баскетбалісты тады планавалі зрабіць рэбрэндынг каманды. І Куль запытаўся, ці не супраць мы, каб яны ўзялі цмока, якога мы "вывелі на паверхню", і ўвасобілі і як назву, і як стыль сваёй каманды", – згадаў Андрэй Эзерын.

І цяпер усе інфармацыйныя рэсурсы "Цмокаў" працуюць таксама і на "Будзьму" – білборды, рэклама.

### 8. "Будзьма" зрабіла мульцік "Будзьма Беларусамі"

Цяпер мульцікі з'яўляюцца кожны год. А ў 2011 годзе гэта была падзея, рэвалюцыйная рэч – з пункту гледжання смелага падыходу.

"Спачатку мультфільм задумваўся як карпаратыўнае відэа аб ідэях кампаніі "Будзьма беларусамі". А ўрэшце гэта стала мэсаджам пэўнага часу, а не толькі кампаніі. Але шлях быў складаны. Была складанасць сфармаваць ідэю. Рэкламныя арганізацыі нас не разумелі: вось калі робіш для банку, зразумела: банк дае пэўны сэрвіс. А як паказаць, што беларус становіцца беларусам, калі пачынае цаніць мову, культуру, як адбываецца трансфармацыя?" – успамінае Алена Макоўская.

А Ніна Шыдлоўская адзначае менавіта чалавечы фактар – тады сышліся зоркі: "Цудоўна на той момант атрымалася супасці па нейкіх адчуваннях часу, прасторы і патрэбы з Юляй Ляшкевіч і Юляй Рудзіцкай. І там былі Лявон Вольскі і Аляксандр Памідораў! Ідэя падцягнула патрэбных людзей".

Андрэй Эзерын дадае, што сёння на адным дыханні глядзіцца гэты мультфільм. А былі і цяжкія моманты – усе ж творчыя людзі. Да таго ж чакалі, што хутка прыйдуць па гэты мульт.

Дарэчы, мульцік перакладзены на 7 моў свету, а тым ліку на ангельскую, шведскую.

### 9. У "Будзьмы" часцяком крадуць слоганы і "пазычаюць" ідэі

Але ў каардынатараў кампаніі асаблівай крыўды няма, кажа Ніна Шыдлоўская: "Тут мяжа вельмі тонкая. Бо, з аднаго боку, мы ж усюды дэкларуем і з'яўляемся прыхільнікамі таго, каб нашы ідэі спараджалі вал іншых ідэй. Але былі такія моманты, калі нахабна і жорстка ў нас кралі, "пазычалі". Скажам так, "заимствовали": "Культура – гэта тое, што нас аб'ядноўвае" – бачылі білборды дзяржаўныя? А першы наш плакат, які Міхал Анемпадыстаў рабіў: "Будзьма беларусамі – гэта тое, што нас аб'ядноўвае і робіць унікальнымі". І дзякуй Богу, што хоць такім чынам яно ідзе ў галовы людзей, пашыраецца. Мы не заўсёды маем магчымасць самі размясціць гэта на білбордзе, а дзяржава гэты лозунг узяла і пашырае".

Ніна Шыдлоўская дадае, што напачатку яны вельмі пільна, жорстка сачылі, дзе выкарыстоўваецца лагатып "Будзьмы" – на якіх акцыях, бо прынцыповым момантам была якасць мерапрыемства: "Скочвацца ў палітызаваны сегмент мы не хацелі, калі замахнуліся даць пазітыў беларушчыне ў галовах незаангажаваных людзей. У першыя гады канфлікты былі нават з сяброўскімі, партнёрскімі структурамі, якія не разумелі, чаму мы супраць выкарыстання нашага лагатыпу. У нас не выпадковы лагатып, не выпадковае спалучэнне колераў, і нам вельмі важна, каб гэта закладалася ў падсвядомасць беларусаў".

### 10. Што не атрымалася?

"Не атрымалася, каб праз 10 гадоў кожны беларус сказаў: "Так, я карыстаюся толькі беларускай мовай, бачу гісторыю Беларусі ў рэтраспектыве еўрапейскай і гэтак далей", – кажа Алена Макоўская.

Шмат чаго не атрымалася і па дробязях, але не ўсе працоўныя моманты, непаразуменні атрымлівалі розгалас.

"Мы ніколі не рабілі інфармацыйнай нагоды з таго, што нам дзесьці адмовілі ў памяшканні, забаранілі мерапрыемства. А было рознае: і забаранялі, і не пускалі, да гэтага часу бываюць непаразуменні з мясцовымі адміністрацыямі. Быў перыяд, калі нас не прапускалі ні праз якія абходныя шляхі, не прапускалі рэкламу нават культурных, музычных імпрэз у метро – на наземных афішах можна, у метро нельга. Усялякае бывала", – дадае Ніна Шыдлоўская.

Іна Студзінская, "Радыё Свабода"

**юбілей**

# “ЗА НЕЗАЛЕЖНЫЯ БЕЛАРУСЬ І ЛАТВІЮ”

## 80 ГАДОЎ СПОЎНІЛАСЯ БЕЛАРУСКАМУ МАСТАКУ З РЫГІ ВЯЧКУ ЦЕЛЕШУ

25 верасня 80-гадовы юбілей адзначыў адзін з найбольш актыўных і паслядоўных рупліўцаў беларушчыны Латвіі Вячка Целеш.

Ён аб’ядноўваў самыя розныя сферы дзейнасці на карысць беларускай справы: мастак, адзін з заснавальнікаў Таварыства беларускай культуры “Світанак” і аб’яднання беларусаў-мастакоў Балтыі “Маю гонар”, арганізатар і дырэктар першай беларускай школы ў Рызе; ён быў у Кансультацыйнай радзе пры ўсіх прэзідэнтах, абараняў інтарэсы беларусаў. Ягоныя высілкі годна адзначаныя ўладамі Латвійскай Рэспублікі, ён кавалер найвышэйшай дзяржаўнай узнагароды – ордэна Трох Зорак.

Круглую дату Вячка Целеш адзначыў персанальнай выставай, якая ахапіла ўвесь перыяд ягонай мастацкай творчасці – ад студэнцтва да сталасці.



**– Спадар Вячаслаў, шчырыя віншаванні з 80-годдзем! Як збіраецеся адзначыць свята?**

– Сёння проста прымаю віншаванні – усё ж будны дзень, ва ўсіх свае справы. Сходзім у выходныя з жонкай і блізкімі мне людзьмі ў рэстаран, крыху пасядзім, адзначым... Галоўным для мяне было адкрыццё выставы – дзякуй Богу, усё атрымалася. Прыйшло шмат людзей: аднакурснікі, нашы актывісты, вядомыя людзі Латвіі. Вельмі прыемна. Найлепшае адзначэнне – гэта прызнанне тваіх высілкаў. Усцешыла, што адгукнуліся і на ўрачыстае адкрыццё ў галерэю прыйшлі беларусы, латышы, прынеслі мне цэлы воз кветак, арганізавалі канцэрт. Агулам выставіў больш за 60 прац – ад графікі да жывапісу. Таксама я напісаў кнігу пра беларускіх мастакоў Латвіі. Цяпер вось маю клопат пастарацца яе выдаць сёлета. Здаў адзін праект, цяпер трэба паспець з другім, каб атрымаць фінансаванне з дзяржаўных фондаў.

**– Латвійскія ўлады таксама адрэагавалі, не засталіся ўбаку?**

– Міністэрства культуры Латвіі ўзнагародзіла ганаровай граматай, былі адтуль прадстаўнікі, таксама віншавалі. Ну і беларуская амбасада ўспомніла, падаравалі копію мапы Вялікага Княства Літоўскага, арыгінал якой у адзіным экзэмпляры захоўваецца ў Швецыі. Таму, паўтаруся, мой юбілей адзначаны перадусім адкрыццём персанальнай выставы. Я яе назваў “Гадоў датыкненне”, бо хацеў паказаць свой шлях ад самага пачатку: пачынаючы з падрыхтоўчых курсаў у Латышскай акадэміі мастацтваў і да сённяшняга дня. Праўда, значную колькасць прац выставіць не ўдалося. Калі ў мяне забіралі ў 1993 годзе майстэрню, шмат карцін я перадаў у Беларусь. Цяпер яны ў Нацыянальным мастацкім музеі ў Мінску, у Горадні, на маёй радзіме ў Ваўкавыску, у прыватных зборах.

**– Ці не абмяркоўвалася магчымасць юбілейнай выставы ў Беларусі?**

– Вы ж ведаеце, што я стаю пад нашым гістарычным сцягам, гэта галоўнае. Я не крычу пра гэта, не размахваю рукамі; мая мэта – з’яднаць беларусаў на нацыянальным грунце. Так было заўжды. Ніхто не аспрэчыць, што я шмат рабіў і працягваю рабіць на карысць Бацькаўшчыны. Але праз тое, што ў некаторых момантах нашы пазіцыі з уладамі Беларусі разыходзяцца, мне дарога туды закрытая. І гэта тычыцца не толькі вышэйшага кіраўніцтва. У тым жа Facebook вялікая колькасць водгукаў на маю выставу, а беларускія калегі маўчаць. Хоць былі сябрамі: і я да іх наведваўся, і яны ў майстэрні маёй начавалі... Зрэшты, важна, што я адчуваю сябе ў Латвіі камфортна, мне прыемна, як да мяне тут ставяцца. Трэба проста рабіць сваю справу, не падкрэсліваць, які ты вялікі герой і патрыёт.

**– Ваш юбілей стаў своеасаблівым працягам іншай даты – 100-годдзя абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. У сакавіку ў рамках святочных імпрэз выстаўлялася ваша праца “Пад сцягам “Пагоні”. Кастусь Езавітаў” – у гонар палітычнага дзеяча, які стварыў і ўзначаліў у Рызе Беларускі камітэт.**

– Гэта сапраўды наш вялікі юбілей, знакавая дата для ўсіх беларусаў. Я вельмі хваляваўся, каб імпрэза прайшла на годным узроўні. Спадзяюся, менавіта так яе і ацанілі. Прынамсі для тых, хто працуе на нашай ніве беларушчыны, гэтая падзея, без перабольшання, эпахальная... Дарэчы, і яшчэ ёсць адзін юбілей – сёлета 30-годдзе сваёй грамадскай і культурнай дзейнасці адзначае наш “Світанак”. Таварыства паўстала ў 1988 годзе – гэта адна з першых беларускіх суполак, да якой я непасрэдна прыклаў руку, знайшоў паплечнікаў. Толькі пазней такія арганізацыі пачалі ўзнікаць у Рызе і ў рэгіёнах. У нас пазіцыя была і застаецца адназначная: за незалежныя Беларусь і Латвію. З першага дня і да сёння мы стаім пад бел-чырвона-белым сцягам...

**Ігар Карней, “Радыё Свабода”**

**Віншуем Вячку Целеша!**

Спадар Вячка Целеш стаяў ля вытокаў ЗБС “Бацькаўшчына” і ад самага пачатку быў сябрам Рады.

Мы шчыра захапляемся яго адданасцю Беларусі і маштабамі ўнёску ў нашу культуру – плён многіх гадоў шчыравання на ніве беларушчыны. Дзякуючы намаганням спадара Вячкі Целеша беларусы ў Латвіі карыстаюцца заслужанай павагай, у свеце істотна пашыраюцца веды пра Беларусь, а афіцыйныя межы, што падзяляюць беларусаў краінаў Балтыі, робяцца больш празрыстымі

Ад усяго сэрца віншуем дарагога юбіляра і зычым яму моцнага здароўя, нязгаснага імпэту, новых творчых задумаў і іх здзяйсненняў!

**Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”**

**навіны**

# “БАЦЬКАЎШЧЫНА” ЎЗЯЛА ЎДЗЕЛ У ПАСЯДЖЭННІ КАНСУЛЬТАТЫЎНАГА САВЕТА ПА СПРАВАХ БЕЛАРУСАЎ ЗАМЕЖЖА

20 верасня ў Мінску прайшло чацвёртае пасяджэнне Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа пры Міністэрстве замежных спраў.

Савет ачольвае кіраўнік ведамства Уладзімір Макей, аднак на пачатку пасяджэння ён адсутнічаў – быў на перамовах Аляксандра Лукашэнкі з кітайскай дэлегацыяй. Адкрываў сустрэчу беларусаў замежжа намеснік міністра Андрэй Дапкюнас.

Ён падкрэсліў, што імідж Беларусі фармуецца не толькі намаганнямі дзяржаўных устаноў, але і праз простых людзей, асабліва тых, хто звязаны з Беларуссю, але з розных прычын знаходзіцца па-за яе межамі.

“Духоўная повязь, сувязь культур, яна не страчваецца, – сказаў Андрэй Дапкюнас. – І нават калі чалавек не грамадзянін Рэспублікі Беларусь, але мае беларускія карані, то ён можа шмат зрабіць для ўмацавання іміджу Беларусі. Асабліва важна, каб гэтыя людзі папрацавалі яшчэ і на фармаванне сучаснай эканомікі. Бо менавіта сучасная эканоміка – гэта і ёсць найлепшы падмурак дабрабыту беларусаў”.

Скарыстаўшыся магчымасцю, журналісты запыталіся ў Андрэя Дапкюнаса пра яго стаўленне да таго, што ў Мінску да гэтага часу не павесілі памятную шыльду на будынку, дзе абвяшчалася незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі, нягледзячы на абяцанні мінскіх уладаў зрабіць гэта яшчэ ў сакавіку.

“Як грамадзянін Беларусі лічу, што гісторыя маёй краіны ёсць такая, якой яна склалася за шмат стагоддзяў, – адказаў намеснік міністра, адзначыўшы, што ў ягоную кампетэнцыю гэтае пытанне не ўваходзіць. – Але гісторыя Беларускай Народнай Рэспублікі – гэта таксама частка нашай гісторыі. Выкінуць гісторыю БНР з агульнага працэсу проста нельга”.

У чацвёртым пасяджэнні Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа ўзялі ўдзел члены савета з 18 краін, прадстаўнікі дзяржаўных установаў Беларусі і грамадскіх аб’яднанняў – Беларускага таварыства па сувязях з суайчыннікамі за мяжой “Радзіма” і Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, якое прадстаўлялі кіраўнік Алена Макоўская і старшыня Рады Ніна Шыдлоўская. На сустрэчы прысутнічалі беларусы Францыі, Нямеччыны, Чэхіі, Швейцарыі, Украіны, Расіі, Польшчы ды іншых краін.

**Паводле “Радыё Свабода”**

**Кансультатыўны савет па справах беларусаў замежжа**

Быў заснаваны ў 2015 годзе ў адпаведнасці з законам “Аб беларусах замежжа”, ініцыятарам якога выступіла ЗБС “Бацькаўшчына”.

Згодна з гэтым дакументам на Міністэрства замежных спраў ускладзены функцыі каардынатара развіцця супрацоўніцтва з беларускай дыяспарай. Кансультатыўны савет ладзіць свае пасяджэнні раз на год, і штогод адбываецца яго частковая ратацыя.

гутарка

# Вячаслаў Бортнік: БЕЛАРУСЫ Ў ШТАТАХ АПОШНІМ ЧАСАМ ГУРТУЮЦЦА Ў САЦСЕТКАХ

Сядзібу "Бацькаўшчыны" наведаў Вячаслаў Бортнік – грамадскі дзеяч, праваабаронца, сябра Рады "Бацькаўшчыны" і сакратар Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Прапануем да вашай увагі гутарку пра пра тое, чым займаюцца самыя буйныя беларускія арганізацыі ў ЗША, як працуе Amnesty International, ці думае Дзярждэп пра Беларусь і што такое беларускі "happy hour".



**– Вы кажаце, што ў эміграцыі з 2013 года, але пры гэтым ёсць звесткі, што вы ў БАЗА ад 2008-га. Як гэта атрымалася?**

– Справа ў тым, што ездзіць у Вашынгтон і Нью-Ёрк – на канферэнцыі, у адведкі да знаёмых – я пачаў яшчэ ў 2004 годзе. Ездзіў даволі часта, разы два на год. У 2006 годзе я даведаўся, што ў Вашынгтоне існуе беларуская суполка – яны штомесяц 16 чысла ладзілі акцыі пратэсту каля беларускай амбасады. Аднойчы далучыўся да акцыі, такім чынам пазнаёміўся з беларусамі Вашынгтона і, калі бываў у Вашынгтоне, 16-га абавязкова іх падтрымліваў. А ў 2008 годзе я атрымаў двухгадовую стыпендыю Эдмунда Маскі на магістарскую праграму па кірунку "дзяржаўнае кіраванне". І мне пашанцавала: з больш як сотні ўніверсітэтаў у розных гарадах, якія бралі ўдзел у праграме, мне зноў трапіўся вашынгтонскі – Амерыканскі ўніверсітэт. Калі я ў чарговы раз пайшоў пад амбасаду, каб падтрымаць беларускі пратэст, адзін хлопец з суполкі – Яраслаў Крывой – запрасіў мяне на пасяджэнне, і так мяне раптоўна абралі сакратаром Вашынгтонскага гуртка БАЗА.

Згодна з умовамі праграмы навучання я праз два гады мусіў з'ехаць назад у Беларусь, каб ужыць на практыцы атрыманыя веды. Вядома, уладкавацца ў дзяржаўную ўстанову было немагчыма праз тое, што я заўсёды быў крытыкам пануючай улады і мяне ўсе тут добра ведалі. Таму я працаваў у розных недзяржаўных, некамерцыйных арганізацыях – быў ментарам, кансультантам, трэнерам. Але і ў Штаты працягваў ездзіць – віза J1 вымагала адпрацаваць два гады, каб мець магчымасць прэтэндаваць на працоўную візу ці эміграцыйны статус. Праз тое, што часта і надоўга адлучаўся, атрыманне такога статусу зацягнулася на год. А яшчэ паўплывала мая дзесяцігадовая гісторыя кахання "на дзве краіны"– калі мы ў 2013 годзе афіцыйна аформілі стасункі, у мяне атрымалася застацца ў ЗША настала.

**Беларуска-амерыканскае задзіночанне (БАЗА)**

Грамадская арганізацыя прадстаўнікоў беларускай эміграцыі і творчай інтэлігенцыі ў ЗША. Заснаваная ў 1949 годзе ў Нью-Ёрку. На сённяшні дзень БАЗА з'яўляецца найбуйнейшай і самай старой беларускай арганізацыяй у ЗША.

Афіцыйным выданнем Беларуска-Амерыканскага Задзіночання з'яўляецца газета "Беларус" (выходзіць з 1950 года).

Арганізацыйна БАЗА складаецца з штаб-кватэры ў Нью-Ёрку, сямі аддзелаў на тэрыторыі ЗША і гурткоў, арганізаваных там, дзе няма дастатковай колькасці сяброў для заснавання аддзелу.

Старшыня Галоўнай управы – Наталля Федарэнка (з 2017 года).

**– А ў Беларусі з таго часу часта бываеце?**

– Апошнім часам хіба раз на год. Стараюся прымяркоўваць прыезды да нейкіх мерапрыемстваў. Або часам даводзіцца бываць па працы ў суседніх краінах – дык спалучаю. Я сам з Гомеля, таму перш за ўсё еду туды, адведваю сваякоў, цікаўлюся, чым там і ў Мінску займаюцца знаёмыя грамадскія актывісты. Таксама, выпраўляючыся ў Беларусь, я думаю, што карысная можна зрабіць для беларусаў ЗША – усталяваць новыя кантакты і да таго падобнае. Напрыклад, гэтую паездку я вырашыў скарыстаць на тое, каб сустрэцца з актывістамі. Затым планую пад'ехаць у Варшаву, у Кіеў, даведацца ў тамтэйшых актывістаў пра мясцовае беларускае жыццё, сабраць ідэі, абмеркаваць, якім чынам зрабіць так, каб праца Рады БНР стала больш эфектыўнай, прыносіла большую карысць для Беларусі. Я ж, сярод іншага, з'яўляюся, дарэчы, сябрам Рады БНР...

**– То бок не толькі кіраўніком Вашынгтонскай БАЗы?**

– Акрамя Вашынгтонскай, я яшчэ і ў Галоўную Управу БАЗы ўваходжу.

**– А ці шмат беларусаў у Амерыцы адначасова з'яўляюцца сябрамі розных беларускіх арганізацый – уваходзяць і ў БАЗу, і ў Раду БНР, і яшчэ кудысьці?..**

– Рада БНР – гэта ўстанова крыху іншага, асаблівага кшталту. Сябры Рады БНР знаходзяцца ў пятнаццаці розных краінах свету. ЗША, Канада, Аўстралія, Вялікая Брытанія, Швейцарыя, Швецыя, Нямеччына, Расія, Украіна, Польшча, Францыя, Чэхія... Бяруць у Раду не кожнага, гэта людзі найбольш актыўныя і добра вядомыя ў сваіх асяродках.

**– А чым зараз займаецеся?**

– Зараз у асноўным выкладаю. Расейскую мову. Калі атрымліваецца – і беларускую. Амерыканскім дыпламатам, вайскоўцам, супрацоўнікам міжнародных арганізацый... Таксама займаюся лінгвістычнай працай, перакладамі.

**– А ці існуе беларускае жыццё ў Вашынгтоне па-за БАЗАй? І наколькі тое беларускае жыццё нацыянальнае? І наколькі востра не хапае моладзі?**

– Мушу растлумачыць пра БАЗу. Галоўная Управа ніколі не была галоўнай арганізуючай сілай. Асяродкі БАЗы ў розных штатах – аддзелы, гурткі – заўсёды былі даволі аўтаномнымі, і ініцыятыва традыцыйна сыходзіла не з Нью-Ёрка, а "знізу", з гэтых асяродкаў. У ЗША шмат беларускіх арганізацый і па-за БАЗАй, што праўда, зараз іх зрабілася меней у параўнанні з 40–70-мі гадамі. Раней сярод іх існаваў, да прыкладу, падзел на прыхільнікаў БНР і прыхільнікаў БЦР – пасля БЦРаўскія арганізацыі амаль спынілі сваю дзейнасць, а БАЗА працягвае існаваць.

Ёсць традыцыйныя беларускія асяродкі ў месцах, дзе гістарычна жыло шмат беларусаў – гэта Нью-Ёрк, Нью-Джэрсі, Агаё, Каліфорнія. У некаторых штатах ёсць рускамоўныя суполкі беларусаў. Існуе такая агульная тэндэнцыя: маладыя людзі не шукаюць беларусаў, а далучаюцца да рускамоўных, "СНГшных" тусовак. Беларусы ў Штатах апошнім часам гуртуюцца ў асноўным у сацсетках – у тым жа Фэйсбуку. І яны ніяк не афіліяваныя ні з якімі зарэгістраванымі арганізацыямі, накшталт БАЗы. Хаця было і такое, што некаторыя суполкі выходзілі на кантакт з існуючымі арганізацыямі і нават уваходзілі ў іх склад.

Што да Вашынгтону, то і беларусаў, і проста эмігрантаў з былога Савецкага Саюза тут амаль што няма. Але прадстаўніцтва Галоўнай Управы БАЗА было там яшчэ з канца 70-х гадоў – задачамі актывістаў былі сустрэчы з прадстаўнікамі дзяржаўных устаноў, перадача ім інфармацыі пра беларускае жыццё, палітыку, звароты з просьбамі да амерыканскіх дзяржаўных дзеячаў зрабіць якіясь заявы. Вашынгтон – усё ж сталіца, палітычны напрамак дзейнасці там больш перспектыўны, чым культурніцкі. Затым, на пачатку 90-х, у Вашынгтонскай БАЗе быў спад актыўнасці. Але пакрысе людзі пачалі гуртавацца, у асноўным вакол Алесі Кіпель (дачкі Вітаўта Кіпеля), Алесі Сёмухі (дачкі Васіля Сёмухі), Ірыны Красоўскай (удавы зніклага бізнесоўца Анатоля Красоўскага) і некаторых іншых. Арганізаваўся гурток актыўных людзей, далучылася моладзь, далучыўся, напрыклад, былы беларускі дыпламат, Аркадзь Чарапанскі.

У 2007 годзе дзейнасць Вашынгтонскага аддзела аднавілася: мы таксама ходзім у Дзярждэпартамент, сустракаемся з сенатарамі, з кангрэсменамі. Маладым людзям гэта не вельмі цікава, яны, можа, больш хацелі б ладзіць нейкія святы, велапрабегі, паходы. Хаця культурніцкія праекты таксама ж ладзім. А вось асяродкі ў Нью-Ёрку, Нью-Джэрсі, Маямі якраз больш займаюцца культурай, арганізацыяй імпрэз. У некаторых штатах з'явілася "Мова нанова".

**– То бок "дэмаграфічнага крызісу" ў асяродку вашынгтонскіх беларусаў усё ж не прадбачыцца?**

– Вядома, людзі ёсць. Мы, кантактуючы з імі, ад самага пачатку агаворваем, што прытрымліваемся ідэалаў Беларусі як незалежнай краіны, шануем бел-чырвона-белы сцяг і "Пагоню". Але калі да нас хочуць далучыцца апалітычныя ці рускамоўныя людзі, мы ім не перашкаджаем, ёсць жа розныя накірункі працы. У Вашынгтоне рэстаратары практыкуюць "happy hour" – гэта калі бары і рэстараны адразу па

заканчэнні працоўнага дня цягам некалькіх гадзін прапаноўваюць ежу і напоі за паўцаны. Дык мы, напрыклад, робім беларускі "happy hour", які больш прыцягвае маладых. У нас добрыя стасункі з праваабарончымі арганізацыямі. Напрыклад, у сакавіку Human Rights First дала нам памяшканне ў самым цэнтры Вашынгтона, за адзін квартал да Белага дома, і мы там рабілі прыняцце ў гонар 100-х угодкаў БНР. У якасці спікераў запрасілі былых амбасадараў, якія раней працавалі ў Беларусі, іншых гасцей, замовілі беларускую ежу...

**– Дарэчы, наконт праваабарончых арганізацый. Вы ж яшчэ і з Amnesty International супрацоўнічаеце. Узначальваеце каардынацыйную групу па Еўразіі.**

– Так. Amnesty International, відаць, самая буйная праваабарончая "membership-based" арганізацыя ў свеце, налічвае сем мільёнаў сяброў. Хаця зараз сярод падобных арганізацый якраз назіраецца іншая тэндэнцыя. Напрыклад, у Human Rights First і Human Rights Watch сяброў няма, гэта проста офісы, у якіх працуюць прафесіяналы, спецыялісты – так лягчэй працаваць. Бо перад сябрамі трэба справаздачыцца, сябры ўдзельнічаюць у працэсе прыняцця рашэнняў. Гэта складана арганізацыйна, тэхнічна, гэта нятанна. Але з іншага боку, наяўнасць сяброў для арганізацыі – гэта вялікая сіла, асабліва ў Штатах, дзе голас кожнага выбаршчыка насамрэч вельмі важны. Бо ён заўсёды можа звярнуцца да свайго прадстаўніка ў Кангрэсе, збіраць подпісы, арганізоўваць людзей і г.д. Важна, каб у арганізацыі былі сябры, і важна, што людзі робяць штосьці не за грошы, а каб палепшыць свет, падзяляюць місію арганізацыі.

У Amnesty International, вядома, ёсць штат, ёсць офіс, дзе працуюць прафесіяналы, атрымліваюць заробкі. Але ёсць маса валанцёраў, якія грошай не атрымліваюць. У Амерыцы гэта нармальная рэч, там людзі часта бяруць удзел "на грамадскіх пачатках" у розных арганізацыях – нацыянальных, гарадскіх, мясцовых. Мая пасада ў Amnesty International USA таксама валанцёрская. У нас ёсць дырэктар па Еўропе і Цэнтральнай Азіі, але адзін чалавек, канечне, не можа ўсё ведаць, таму для гэтага ёсць спецыялісты па ўсіх пяцідзесяці краінах, і яны ў свой вольны час служаць дарадцамі для людзей, якія працуюць у асноўным штаце Amnesty International. Такія каардынацыйныя структуры фармуюцца паводле розных прынцыпаў, не толькі геаграфічнага. Ёсць групы па правах жанчын, па ЛГБТ, па пытаннях бяспекі...

Я ўзначальваю такую валанцёрскую каардынацыйную структуру па Еўразіі.У маю групу ўваходзяць спецыялісты па дванаццаці краінах: Расія, Беларусь, Украіна, Грузія, Азербайджан... Таксама ёсць лакальныя групы Amnesty International, у кожным горадзе, ва ўніверсітэтах, у вышэйшых школах. Валанцёры рэгулярна збіраюцца для разгляду, напрыклад, канкрэтнага "кейсу" палітвязня з якой-небудзь краіны: накіроўваюць лісты да пракурора, да міністра ўнутраных спраў, усталёўваюць кантакт са сваякамі асуджанага, падтрымліваюць яго самога, пішуць яму лісты, дасылаюць паштоўкі. Могуць публікаваць артыкулы, прасіць кангрэсмэна ці сенатара зрабіць заяву. У Дзярждэпе ЗША ёсць людзі, якія займаюцца асобнымі краінамі, г. зв. desk officers. Адмысловы спецыяліст па Беларусі там таксама ёсць.

Дапамагаем таксама з атрыманнем палітычнага прытулку. Вядома, мы не маем магчымасцяў праверыць кожны "кейс", затое можам накіраваць ліст з ацэнкай агульнай сітуацыі ў краіне, калі нейкія падобныя парушэнні правоў адбываюцца рэгулярна. Ладзім канферэнцыі, панэльныя дыскусіі, працуем з медыямі – у ЗША ліст, апублікаваны ў газеце, напрыклад, у Washington Post, можа аказаць на сітуацыю вельмі вялікі ўплыў.

**– А што такое Беларускі інстытут Амерыкі? Вы ж і да яго дачыненне мелі...**

– Так, меў. На запрашэнне Андруся Асадчага.

**– Запрашэнне таксама было на кіраўнічую пасаду?**

– Таксама на кіраўнічую. Па-шчырасці, не ведаю, як у іх зараз справы. Бруклінскі аддзел БАЗА нейкі час узначальваў вельмі актыўны і ідэйны малады чалавек – Андрусь Асадчы. Пасля таго, як ён сыйшоў, то вырашыў стварыць новую арганізацыю – Беларускі інстытут Амерыкі. Ідэя вельмі добрая, ён хоча згуртаваць маладых, актыўных, адукаваных людзей, з навуковымі ступенямі. Планаў шмат. Навуковы напрамак – правядзенне канферэнцый, запрашэнне навукоўцаў з Беларусі, наладжванне кантактаў з навукоўцамі Паўночнай Амерыкі. Культурніцкі напрамак – канцэрты, мастацкія выставы. Палітычны напрамак, праваабарончы... Але, наколькі я разумею, далей за культурніцкі напрамак справа пакуль што не пайшла. Была праведзеная беларуская канферэнцыя ў Вашынгтоне з беларускімі і амерыканскімі дзеячамі. Было праведзена шмат беларускіх канцэртаў, зроблены сайт "Беларуская прастора". Да стагоддзя БНР яны зладзілі вялікі канцэрт у Нью-Ёрку. Па ўсім відаць, папросту не хапае рэсурсаў, людзей, каб рэалізаваць гэты амбітны праект у поўнай меры і па ўсіх кірунках. Ёсць над чым працаваць.

**Гутарыў Сяргей Кандрацёнка, прэс-сакратар ЗБС "Бацькаўшчына"**

**справа**

# БЕАТЫФІКАЦЫЯ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ: ГОДНАЯ СПРАВА ДЗЕЛЯ КАНСАЛІДАЦЫЯ НАЦЫІ

Акрамя рэлігійнага значэння, наяўнасць сваіх святых яднае нацыю, дае адчуванне прыналежнасці да адной супольнасці. І наша гісторыя мае дастаткова постацяў, якія ў свой час аказалі моцны ўплыў на духоўнае развіццё беларускага народа, вартых і пасля сваёй смерці служыць яднанню беларусаў. Такой постаццю, да прыкладу, ёсць Еўфрасіння Полацкая, якая ёсць святой для ўсіх без адносна да прыналежнасці да пэўнай рэлігійнай канфесіі.

А што адносна Францыска Скарыны? Хіба ён не варты таго, каб быць у ліку святых?

Варты! І за сваю дзейнасць, і за тое, чым і як жыў. У мінулым, 2017-м годзе, у Беларусі адзначалася 500-годдзе выдання першай друкаванай Біблії на беларускай мове менавіта Францыскам Скарынам. Безумоўна, Францыск Скарына вядомы ў свеце як асветнік і першадрукар. Але Францыск Скарына ўсё сваё жыццё прысвяціў працы над Бібліяй і быў глыбока духоўнай асобай.

Прафесар Адам Мальдзіс лічыць, што Скарына як сьвяты мае належаць і праваслаўным, і католікам, і ўніятам. Менавіта з яго ініцыятывы ў 2015 годзе паўстала суполка "Ініцыятыўная група па кананізацыі Францыска / Францішка Скарыны". У падтрымку дадзенай ініцыятывы пробашч касцёла Св. Сымона і Св. Алены ў г. Мінску, ксёндз-канонік Уладыслаў Завальнюк распачаў доўгі, складаны, але, спадзяемся, выніковы працэс па беатыфікацыі Францыска Скарыны. І, што вельмі важна, гэта робіцца ў згодзе з Беларускай праваслаўнай царквой.

На дадзеным этапе вельмі патрэбная падтрымка шырокага кола грамадскасці ў пацвярджэнні таго, што справа па беатыфікацыі Францыска Скарыны патрэбная не толькі рэлігійнай супольнасці, але і ўсяму беларускаму народу.

***У сувязі з гэтым звяртаемся да кожнага з Вас з просьбай падпісаць і фізічна, поштай на адрас офіса "Бацькаўшчыны" даслаць ліст падтрымкі дзейнасці адносна асобы Францыска Скарыны на імя ксяндза Завальнюка.***

**Адрас для лістоў:**
220012, Беларусь, Мінск, вул. Чорнага, 31-906.



**Узор тэксту ліста:**

*Пробашчу касцёла Св. Сымона*
*і Св. Алены ў г. Мінску,*
*ксяндзу-каноніку Уладыславу Завальнюку*

*Шаноўны ксёндз-канонік Уладыслаў!*

*У мінулым, 2017-м годзе, у Беларусі адзначалася 500-годдзе выдання першай друкаванай Біблії на беларускай мове. Безумоўна, Францыск Скарына сусветна вядомы як асветнік і першадрукар. Але Францыск Скарына быў і глыбока духоўнай асобай, усё сваё жыццё прысвяціў працы над Бібліяй.*

*Нам вядома, што Вы збіраеце інфармацыю пра духоўнае спадзвіжніцтва Францыска Скарыны, каб змог быць напоўніцу раскрыты і адпаведна годна ацэнены яго вера, годнае хрысціяніна жыццё, унутраны духоўны свет, маральныя каштоўнасці.*

*Мы ўпэўненыя, што гэтая Ваша дзейнасць умацуе дух беларусаў ва ўсім свеце. Перакананыя, што імя Францыска Скарыны заслугоўвае ўшанавання ў хрысціянскіх храмах Беларусі і ва ўсім свеце. Таму просім Вас працягваць гэтую справу і выказваем падтрымку ў гэтай важнай справе.*

*Подпіс, прозвішча, імя, якую супольнасць прадстаўляеце, дата, горад.*

**Спампаваць ліст можна на сайце zbsb.org**

гутарка

# Алена Макоўская: трэба актывізаваць працу з беларускім замежжам

Сучасная беларуская дыяспара адрозніваецца ад ранейшай. Аднак Рэспубліка Беларусь як дзяржава па-ранейшаму не шмат думае пра беларусаў замежжа. Пра гэта ды іншае – у гутарцы з кіраўніцай ЗБС "Бацькаўшчына" Аленай Макоўскай. Спадарыня Алена ўзяла ўдзел у "Трыялогу" ў Крынках на тэму "Belarusian Outside".



**"Радыё Рацыя": Якімі былі Вашыя першыя асацыяцыі, калі вы пачулі тэму сёлетняга "Трыялогу"?**

**Алена Макоўская:** Мне гэтая тэма спадабалася сваёй шматзначнасцю. "Belarusian Outside" – гэта беларусы, якія жывуць па-за межамі Беларусі, або Беларусь сёння сама ўжо як бы "outside" сваёй дыяспары і тых прагрэсіўных тэндэнцый, якія адбываюцца ў свеце. Гэта вельмі сугучна таму, пра што мы казалі на Сёмым з'ездзе беларусаў свету, і на што мы звярталі ўвагу дзяржаўных установаў Беларусі: трэба актывізаваць працу з беларускім замежжам. Сёння ў Беларусі дзейнічае закон, які быў прыняты ў 2014 годзе, дзякуючы і нашым намаганням, і намаганням беларускай дыяспары. Але ён пакуль што носіць кампрамісны характар і проста вызначае, хто такі "беларус замежжа". Добра, што гэты закон прыняты, але хацелася б нейкіх канкрэтных дзеянняў, якія б датычылі беларусаў замежжа. Зараз таксама дзейнічае дзяржаўная праграма, але яна падвяргаецца крытыцы з боку беларусаў замежжа, бо, на іх думку, носіць выключна "фальклорны", "цымбальны" характар, вельмі слаба падмацаваная фінансава, і падтрымлівае суполкі згодна са ступенню іх лаяльнасці да ўладаў. Мы лічым, што такі падзел не спрыяў і не спрыяе даверу і таму, каб супрацоўніцтва з дзяржавай ішло больш інтэнсіўна. У сучасным свеце тэндэнцыі змяніліся. Раней дыяспары рознымі краінамі свету ўспрымаліся негатыўна, бо людзі з'ехалі – згублены вялікі чалавечы рэсурс, інтэлектуальны патэнцыял. Сёння ж у сувязі з глабалізацыяй і развіццём тэхналогій краіны максімальна карыстаюцца са сваіх дыяспар. Яны разважаюць наступным чынам: ад нас з'язджаюць людзі, але ўзамен мы атрымліваем ідэі, інавацыі, тэхналогіі, інвестыцыі ў абсалютна розныя сферы. Эканомікі шмат якіх краін растуць у тым ліку дзякуючы супрацоўніцтву са сваімі дыяспарамі. Беларусы замежжа – гэта многія легальныя грамадзяне іншых краін свету, многія з іх – прафесіяналы. І можна казаць, што цяпер Беларусі больш патрэбныя яны, чым ім патрэбная Беларусь, бо яны цвёрда стаяць на нагах. Калі Беларусь не інтэнсіфікуе працэсы, калі не пачне сур'ёзна працаваць са сваёй дыяспарай, то, напэўна, ужо мы будзем "outside".

**РР: Як змяняецца дыяспара? Адыходзяць і адышлі такія яе слупы як Хведар Нюнька або Барыс Кіт. Беларусы, выязджаючы, проста інтэгруюцца ў грамадства, у якое трапілі, ці яшчэ захоўваюць свае беларускія карані?**

**АМ:** Гэта вельмі складанае пытанне, таму што няма дакладных дадзеных статыстыкі. Беларусы звычайна, калі выязджаюць, то спрабуюць дыстанцыявацца ад дзяржавы і не анансуюць свой ад'езд. Калі нашыя навукоўцы праводзяць аналіз і звяраюць дадзеныя розных краін свету, то выходзіць наступнае: напрыклад, Рэспубліка Беларусь паведамляе, што выехала 5 тысяч, а Канада паведамляе, што ўехала 10 тысяч. Часта беларусы атрымліваюць пашпарт іншай краіны, але захоўваюць і беларускі. Гэта таксама блытае статыстыку. Аднак часта людзі, выязджаючы па-за межы Беларусі, пачынаюць асэнсоўваць сябе беларусамі. Хоць асіміляцыя ідзе вельмі імкліва, і перапісы, якія праводзяцца рознымі краінамі, фіксуюць змяншэнне колькасці беларусаў. Але гэта найперш звязана з невыразнай унутранай палітыкай нашай краіны. Калі б для людзей прыналежнасць да беларускай культуры і валоданне беларускай мовай былі каштоўнасцямі, то выязджаючы яны б больш імкнуліся трымацца разам. Але рэсурс яшчэ ёсць і ён захоўваецца. У гэтай сітуацыі вельмі важным крокам дзяржавы павінна быць кампанія на пабудову даверу. Трэба перастаць падзяляць беларусаў на сваіх і чужых, трэба ладзіць унутры краіны камунікацыйныя, інфармацыйныя кампаніі, каб папулярызаваць спадчыну беларускага замежжа. Такога ў нас пакуль няма. Нядаўна нашая арганізацыя рабіла аналіз падручнікаў за 9–11 класы – менавіта на прысутнасць у падручніках прадстаўнікоў беларускай дыяспары. На жаль, спарадычна беларуская эміграцыя ўзгадваецца толькі ў падручніку па геаграфіі. Чаму беларусы ў Беларусі не ведаюць пра беларускую нацыянальную меншасць на Беласточчыне?

**РР: Мала, што не ведаюць, дык і не адрозніваюць дыяспару ад меншасці, думаючы, што беларусы некалі выехалі на Беласточчыну...**

**АМ:** Так, бо гэтыя веды мусяць пачынацца са школы, і тут вялікую ролю адыгрывае такі прадмет як "Грамадазнаўства". У ім цяпер эміграцыя з Беларусі ацэньваецца негатыўна, ставіцца пад сумнеў, ці гэтыя людзі ўвогуле патрыёты. Гэта працяг савецкай палітыкі ізаляцыі, калі людзі мусілі жыць у закрытай краіне і лічыць, што жывецца ім тут добра, а ўсе, якія з'язджалі, лічыліся здраднікамі і ацэньваліся адназначна негатыўна. У цяперашніх падручніках – адгалосак той ідэалогіі, ад якой мы ніяк не можам пазбавіцца. Другі мэсадж, які сустракаецца ў "Грамадазнаўстве", – гэта тое, што беларусы не здольныя аб'ядноўвацца па этнічнай прыкмеце. А гэта ўвогуле супярэчыць рэчаіснасці. Мы зараз будзем рыхтаваць прапановы па ўнясенні змен у гэтыя падручнікі.

**РР: Без дапамогі і добрай волі дзяржавы цяжка вырашыць гэтыя пытанні і праблемы?**

**АМ:** Шмат чаго робіцца грамадскім чынам, грамадскімі арганізацыямі за мяжой – яны даследуюць дыяспару. Але змены ў заканадаўстве магчымыя толькі пры жаданні і добрай волі дзяржавы.

**Яна Запольская,**
**"Беларускае Радыё Рацыя"**

## Беларускі каляндар памятных дат на кастрычнік 2018 года

1 кастрычніка – 130 гадоў таму, у 1888-м, нарадзіўся Лукаш Дзекуць-Малей, грамадскі і рэлігійны дзеяч.

1 кастрычніка – 15 гадоў таму, у 2003-м, памёр Васіль Кендыш, грамадскі дзеяч, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

3 кастрычніка – 170 гадоў таму, у 1848-м, памёр Міхаіл Бабровскі, славіст.

6 кастрычніка – 110 гадоў таму, у 1908-м, нарадзіўся Алесь Мілюць, паэт.

6 кастрычніка – 55 гадоў таму, у 1963-м, у Нью-Ёрку памёр Віктар Чабатарэвіч, вайсковы дзеяч, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

7 кастрычніка – 230 гадоў таму, у 1788-м, нарадзіўся Іван Насовіч, мовазнавец-лексікограф, этнограф.

8 кастрычніка – 75 гадоў таму, у 1943-м, памёр Андрэй Мрый (сапр. Шашалевіч), пісьменнік.

10 кастрычніка – 235 гадоў таму, у 1783-м, памёр Людвік Грынцэвіч, архітэктар эпохі позняга барока.

10 кастрычніка – 80 гадоў таму, у 1938-м, памёр Адам Бабарэка, пісьменнік.

11 кастрычніка – 100 гадоў таму, у 1918-м, уступіла ў дзеянне часовая Канстытуцыя Беларускай Народнай Рэспублікі.

13 кастрычніка – 130 гадоў таму, у 1888-м, нарадзіўся Язэп Драздовіч, мастак, археолаг, адзін з заснавальнікаў нацыянальна-гістарычнага жывапісу.

14 кастрычніка – 115 гадоў таму, у 1903-м, нарадзіўся Лявон Рыдлеўскі, палітычны дзеяч, удзельнік Слуцкага паўстання, дзеяч эміграцыі ў Францыі.

19 кастрычніка – 85 гадоў таму, у 1933-м, нарадзілася Вольга Бурнос (дзяв. Пашкевіч), дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

20 кастрычніка – 250 гадоў таму, у 1768-м, памёр Антон Барташэвіч, філосаф.

21 кастрычніка – 140 гадоў таму, у 1878-м, памёр Восіп Кавалеўскі, гісторык, адзін з заснавальнікаў манголазнаўства.

21 кастрычніка – 140 гадоў таму, у 1878-м, нарадзіўся Уладзімір Пічэта, гісторык-славіст, першы рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

22 кастрычніка – 15 гадоў таму, у 2003-м, памёр Міхась Раецкі, журналіст, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

23 кастрычніка – 90 гадоў таму, у 1928-м, нарадзіўся Лаўрэн Клыбік, медык, навуковец-фармацэўт, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Бельгіі.

24 кастрычніка – 65 гадоў таму, у 1953-м, памёр Лявон Рыдлеўскі, грамадска-палітычны дзеяч, удзельнік Слуцкага паўстання, дзеяч эміграцыі ў Францыі.

25 кастрычніка – 160 гадоў таму, у 1858-м, нарадзіўся Эдуард Пякарскі, лінгвіст, этнограф, географ.

25 кастрычніка – 35 гадоў таму, у 1983-м, памёр Марыян Пецюкевіч, дзеяч заходнебеларускага нацыянальнага руху, этнограф.

29 кастрычніка – 25 гадоў таму, у 1993-м, памёр Сяргей Карніловіч, грамадскі дзеяч, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

30 кастрычніка – 135 гадоў таму, у 1883-м, нарадзіўся Янка Быліна (сапр. Ян Семашкевіч), каталіцкі святар, пісьменнік, паэт.

**Беларусы ў свеце**
No 9 (196), верасень 2018

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27